№19 (182)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Снежань 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**У рэйтынгу карупцыі Беларусь дзеліць 119-е месца з афрыканскімі краінамі.**

У параўнанні з мінулым годам сітуацыя крыху палепшылася.

Міжнародны рух па супрацьдзеянню карупцыі Transparency International апублікаваў штогадовы “Індэкс упрымання карупцыі”. Самымі карумпаванымі ў свеце з’яўляюцца Паўночная Карэя і Самалі, якія набралі па 8 балаў. Найбольш чыстымі ад карупцыі лічацца Данія, Новая Зеландыя і Фінляндыя, якія набралі 92, 92 і 98 балаў, інфармуе BBC.

Беларусь сёлета заняла ў “Індэксе ўпрымання карупцыі” 119-е месца (разам з Мазамбікам, С’ера-Леонэ, Танзаніяй і Вьетнамам). Летась у нашай краіны быў 123-ці радок. Адзначым, што Transparency International уключыла ў рэйтынг 175 краін свету.

### У Прыдняпроўі

У Магілёўскай вобласці налічылі 80 тысяч «дармаедаў».

Такая лічба была агучаная на пашыранай нарадзе ў Магілёўскім аблвыканкаме.

Але, як адзначаюць у аблвыканкаме, падчас больш падрабязнага вывучэння звестак гэтая лічба можа скараціцца. Разам з тым, у кіраўніцтве Магілёўскага аблвыканкама чакаюць прапаноў ад раённых уладаў што да ўключэння непрацуючых грамадзян у працоўную дзейнасць. Гэтыя прапановы будуць разгледжаны на наступным тыдні.

### У раёне

**По інфармацыі раённага аддзела ЗАГС** за адзінаццаць месяцаў 2014 года ў раёне нарадзілася 218 дзетак. За аналагічны перыяд 2013 года ў раёне нарадзілася 221 дзіця.

За 9 месяцаў бягучага года ўзялі шлюб 180 пар, у 2013-м — 163.

З пачатку 2014-га года з жыцця пайшлі 382 чалавекі, за аналагічны леташні перыяд памерла 419 жыхароў Прыдрутчыны.

# ЗАРОБКІ ВАЛЯЦЦА…

***Два месяцы запар у Бялыніцкім раёне зніжаюцца заробкі, пераважна ў працаўнікоў вытворчасці, аднак раённыя ўлады гэта не вельмі хвалюе. Зразумела, яны занятыя больш важнымі справамі – навядзеннем парадку на зямлі і пошукам “дармаедаў”, ды і іх асабістыя заробкі не змяншаюцца, а нават крыху павялічваюцца, што і не дзіўна, – мудрыя чыноўнікі атрымліваюць іх з дзяржбюджэту.***




Ужо ў верасні сярэдняя заработная плата па народнай гаспадарцы Бялыніцкага раёна склалася на ўзроўні 5 361,7 тыс. рублёў і зменшылася ў параўнанні з жнівеньскай на 339,2 тыс. рублёў (у жніўні сярэдняя зарплата ў Бялыніцкім раёне была 5 700 944 рублёў).

Літаральна днямі на інтэрнэт-сайце Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Магілёўскай вобласці з’явілася дадзеныя аб налічанай сярэдняй заработнай плаце працаўнікоў вобласці ў кастрычніку. Высветлілася, што сярэдні налічаны заробак працаўнікоў Бялыніцкага раёна ў кастрычніку склаў 5 203 652 рублёў, гэта значыць, зноў знізіўся, ужо ў параўнанні з вераснем, яшчэ на 158 000 рублёў.

Самае цікавае, паважаныя чытачы, што пры гэтым нашы любімыя бялыніцкія чыноўнікі ўсё роўна працягваюць распавядаць казкі пра небывалы росквіт эканомікі Бялыніцкага раёна, напоўніцу выкарыстоўваючы разнастайныя хітрыкі. Так, на інтэрнэт-сайце Бялыніцкага райвыканкама з’явілася інфармацыя пра тое, што “у кастрычніку 2014 года тэмп росту намінальнай налічанай зарплаты ў параўнанні з аналагічнымі перыядамі 2013 г. склаў 113,7%. Мудрыя бялыніцкія чыноўнікі ад “сацыяльнай абароны” чамусьці забыліся нагадаць, колькі за гэты перыяд склала інфляцыя і абяцэньванне “зайчыкаў” у нашай квітнеючай краіне. Ці хаця б паглядзець інфармацыю магілёўскіх статыстыкаў, якія пішуць, што рэальная заработная

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# СУД ПО ГАРАЖАМ В БЕЛЫНИЧАХ ПРОДОЛЖАЕТСЯ

***Судебная коллегия по гражданским делам Могилёвского областнога суда рассмотрела кассационную жалобу на решение суда Белыничского района от 4 сентября 2014 года по иску Александра Воробьёва к гаражно-строительному кооперативу "Дозор" о призинии незаконным владения земельным участком.***




В результате рассмотрения жалобы было принято решение об отмене решения суда Белыничского района от 4 сентября 2014 года и определения того же суда от 12 августа 2014 года. Дело направлено на новое рассмотрение в суд первой инстанции к другому судье.

Согласно постановления судебной коллегии по гражданским делам Могилёвского областного суда, дело направлено на новое рассмотрение, поскольку ошибки, допущенные судом первой инстанции, не могут быть исправлены судом кассационой инстанции.

В частности, судебная коллегия обратила внимание на то, что Воробьёвым А. И. обжаловалось и решение ГСПК "Дозор" об отказе в приёме его в члены кооператива. Решение об отказе является незаконным, поскольку он имеет гараж, который расположен на земельном участке, предоставленном ему 1980 году. Участок и гараж расположены на земельном участке, находящемся в пользовании ГСПК "Дозор" и он имеет право на вступление в члены кооператива. Право собственности на гараж за ним не зарегистрировано, как и вещное право на выделенный ему земельный участок. Вступление в члены кооператива даст ему возможность зарегистрировать гараж на праве собственности.

*(Окончание на стр. 8)*

## ВООРУЖЕННЫЙ ВОР-РЕЦИДИВИСТ ЗАДЕРЖАН В БЕРЕЗИНСКОМ РАЙОНЕ

***В Березинском районе задержан вор-рецидивист, совершивший ряд краж на территории Минской и Могилевской областей, в том числе и в нашем Белыничском районе. При нем оказалось оружие, сообщают «Белорусские новости».***

В Березинский РОВД позвонил бдительный гражданин. Он сообщил, что по деревне Плисичино ходит не местный мужчина с ружьем в руках.

Прибывшей на место следственно-оперативной группе местные жители сообщили, что подозрительный человек находится в чужом нежилом доме, используемом хозяевами под дачу. Оперативники заблокировали подходы к зданию. И задержали ранее неоднократно судимого 29-летнего гражданина.

При мужчине оказалось незарегистрированное охотничье ружьё и мелкокалиберная винтовка с оптическим прицелом, а также боеприпасы к ним.

Мужчина не сопротивлялся при задержании. Он пояснил, что нашел стволы в той же деревне, в нежилом доме. Однако хозяева дома утверждают, что оружие там находиться не могло. Тем не менее, ружье и винтовка вполне пригодны к стрельбе – за день до этого мужчина стрелял из них по украденным кастрюлям, затем ходил по окрестностям деревни, изображая из себя охотника, и даже предлагал местным жителям купить у него оба экземпляра.

Выяснилось также, что мужчина на протяжении нескольких дней проживал в доме, где его задержали; успел съесть часть хозяйских припасов, а также похитить и спрятать DVD-проигрыватель и электрочайник. Кроме того, была установлена его причастность к кражам из частных домов и подворий, совершенным в октябре-ноябре на территории Березинского, Червенского, Кличевского и Белыничского районов. Ночевал он обычно прямо на месте преступления – в обокраденных им домах. Кроме того, передвигался злоумышленник на украденных велосипедах.

Мужчина заключен под стражу. Проводится проверка на его причастность к другим преступлениям и происхождением изъятого оружия, сообщают в УВД Минского облисполкома.

## ВОРУЮТ ВСЁ

В Белыничском районе сотрудники отделения уголовного розыска местного отдела милиции задержали жителя а/г Вишов по подозрению в краже денег у 76-летнего пенсионера, сообщила сотрудница отделения информации и общественный связей областного УВД Юлия ХОЛОМЕЕВА. В тот день потерпевший получил пенсию. На улице пенсионер заметил 28-летнего односельчанина и пригласил того к себе домой – чтобы отметить появление денег.

В доме дедушка достал из кармана лекарства, купленные в аптеке, но не заметил, как на пол выпали 800 тысяч белорусских рублей. А вот его гость это увидел и попросил ни с того ни с сего сходить хозяина за молотком, сам в это время незаметно поднял с пола деньги. После, заметив пропажу своих денег, пенсионер обратился в милицию – правда, к тому времени молодой находчивый мужчина уже успел потратить похищенное. В отношении него возбуждено уголовное дело по статье «Кража».

# У КРУГЛЯНСКІМ РАЁНЕ ЎЗЯЛІСЯ ЗА "ДАРМАЕДАЎ"

***У Круглянскім раёне пачалі пералічваць "дармаедаў" і вырашаць пытанне аб іх прыцягненні да грамадска-карыснай працы ў эканоміцы раёна.***

У сярэдзіне лістапада ў памяшканні кабінета старшыні Круглянскага раённага Савета дэпутатаў Валерыя Ярковіча адбыўся круглы стол, прысвечаны вырашэнню пытання "па выяўленні ўтрыманства і дармаедства". Як паведаміла раённая газета "Сельскае жыццё", удзел у круглым стале прынялі старшыні сельскіх Саветаў, прадстаўнікі праваахоўных органаў, а таксама начальнік упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Круглянскага райвыканкама Галіна Мазок. Падчас кругласга стала вырашалася пытанне аб прыцягненні ў эканоміку раёна незанятага насельніцтва, якое пражывае на тэрыторыі сельскіх Саветаў Круглянскага раёна. Для дасягнення гэтай мэты было вырашана аб'яднаць высілкі ўчастковых РАУС, староcт вёсак і спецыялістаў філіялаў Цэнтра сацыяльнай абароны насельніцтва ў населеных пунктах. Таксама будзе пасілены і "без гэтага строгі комплексны падыход" з боку ўсіх зацікаўленых структур па выяўленні грамадзян, якія вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі, і асоб, якія вядуць асацыяльны лад жыцця.



Грамадская актывістка з Круглага Зінаіда Мілешчанка кажа, што ініцыятыва ўладаў Круглянскага раёна аб прыцягненні да працы так званых "дармаедаў" проста бяздумна паўтарае кіруючыя ўказанні вышэйстаячых уладных структур.

"Мяне цікавіць, дзе ж будуць працаваць прыцягнутыя да працы ў прымусовым парадку так званыя "дармаеды", - кажа Зінаіда Мілешчанка. – У Круглянскім раёне не засталася вытворчасцяў (яны былі ліквідаваны чыноўнікамі), якія б апраўдвалі затраты на такую вось прымусовую працу. Калі гэтых людзей накіруюць у ЖКГ, то новаўвядзенне будзе датычыцца ўсіх іншых грамадзянаў, у тым ліку і мяне, бо ўсе мы будзем аплочваць дадзеных дворнікаў і прыбіральшчыц праз падвышэнне коштаў на жыллёва-камунальныя паслугі.

У Круглым, як і ў іншых маленькіх гарадах і пасёлках, існуе страшэнны дэфіцыт працоўных месцаў, людзям проста няма куды ўладкавацца на працу, існуе вялікае прыхаванае беспрацоўе, калі людзі замест сваёй асноўнай дзейнасці мятуць вуліцы і высякаюць кусты. Я сама на працягу шэрагу гадоў, пакуль не стала атрымліваць пенсію, за свой удзел у дзейнасці апазіцыйнай палітычнай партыі была звольнена з працы і не магла нікуды ўладкавацца нават дворнікам, выжывала толькі за кошт вялікай асабістай падсобнай гаспадаркі. У Круглянскім раёне колькасць насельніцтва і колькасць працоўных месцаў пастаянна скарачаецца. Расце толькі колькасць чыноўнікаў".

Па дадзеных упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароны Круглянскага райвыканкама, па стане на 1 верасня 2014 года ў эканоміцы раёна занята 6017 чалавек, афіцыйна на ўліку стаіць 18 беспрацоўных. Між тым у цэлым па Круглянскім раёне эканамічна неактыўнае насельніцтва з ліку людзей працаздольнага ўзросту складае каля 1859 чалавек. Згодна спецыялістаў упраўляння, у раёне існуе каля ста вольных працоўных вакансій. Згодна ж дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь (на момант падрыхтоўкі матэрыяла да друку) у Круглянскім раёне налічвалася 22 незанятыя вакансіі з 74 вольнымі месцамі.

Мне вельмі цікава, куды ж вельмі разумныя круглянскія ўлады ўладкуюць на працу паўтары тысячы чалавек (я адкінуў з агульнай колькасці "неактыўных" мажлівых хатніх гаспадынь і г. д.), калі гэтыя людзі сапраўды захочуць перастаць быць "дармаедамі" і паспрабуюць працаўладкавацца ў Круглянскім раёне?

Думаю, для нашых слаўных чыноўнікаў даўно не з'яўляецца сакрэтам, што людзі вымушаны зарабляць сабе на жыццё ў Расіі і на розных неафіцыйных працах не ад добрага жыцця. Асноўнай прычынай гэтага з'яўляецца якраз дзейнасць нашых мудрых кіраўнікоў, дзякуючы якой простым людзям знайсці нейкую працу з годным заробкам у сельскіх раёнах вельмі цяжка. Шмат якія прадпрыемствы пазачыняліся – у тым жа Круглым за апошнія гады перасталі працаваць льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз, сельгасхімія, Ракушыцкая птушкафабрыка, цагляны завод, Круглянская школа-інтэрнат, рэарганізавана шэраг калгасаў і саўгасаў. Фактычна адзінае прадпрыемства ў райцэнтры, якое стабільна працуе - гэта мясцовае будаўнічае ПМК -266. Аднак і там працаўнікі скардзяцца, што апошнім часам значна знізіліся заробкі.

Што ж датычыцца сапраўдных лайдакоў, якія праводзяць большую частку свайго жыцця ў пошуках "зялёнага змея", то якая карысць будзе ад

*(Заканчэнне на стар. 5)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПЛЯСКА НА КОСТЯХ!

*Интересно - государственная власть чиновников в нашей стране – это коллективный разум или коллективное слабоумие? Почему иногда своевременные и необходимые для жизни решения, принятые, я надеюсь (оптимист! Куда деться), коллегиально, на деле выходят простому народу боком и приносят нешуточные страдания?*



***Зинаида Милещенко***

Вот и в нашем Круглянском районе, когда районные власти взялись за обустройство кладбищ, многие были согласны, что это дело хорошее, что давно пора, так как погребенные родственников слишком тяжкий душевный труд, где непременно требуется квалифицированная помощь на стороне. И то, что Круглянское ЖКХ взяло на себя часть забот по погребению, хорошо воспринялось населением, ведь в деревне сейчас, порой и могилу некому вырыть.

Но, как всегда, хотели сделать хорошее, а вылилось в ненужные людские страдания и нарекания, так как «перегнули палку» в своей ретивости. Я бы не стала судить так строго, если бы саму меня не коснулось это нововведение. 22 ноября сего года, как обычно, я со старшим сыном решила посетить Круглянское районное кладбище, расположенное по улице Могилёвской, чтобы проведать могилы моих родителей и навести там порядок перед наступлением зимы. То, что я увидела, повергло меня в шок! Внутри ограждения могил ретивые работники ЖКХ выпилили все насаждения: кустик махровой сирени и маленькие деревца клёна и черёмухи. Увидев осквёрнённую могилу дорогих мне людей, я едва не умерла. Лишь присутствие сына и наличие в сумке лекарств помогло мне удержаться в жизни и не переселиться через пару дней на святое для моей души место, на котором и я рассчитываю лежать, но хотелось бы всё-таки попозже, и не с такой помощью, которую мне оказали работники ЖКХ. Я пыталась выяснить, на каком основании была произведена вырубка насаждений внутри ограды, ведь, практически, они никому не мешали, но столкнулась с тем, что руководитель работ нахамил!, а в конторе ЖКХ и в райисполкоме не оказалось документа, подтверждающего законность произведённых работ. Более того, ни там, ни там мне не показали правила содержания кладбищ, утверждённых Министерством коммунального хозяйства РБ, на которые ссылались. Видимо, чиновники посчитали себя такими грамотными в данном вопросе, что решили, что знать эти правила им не важно. И начали производить работы на кладбищах всего района так, как представляло их воображение.

Мне говорят, что я слишком строго сужу. Может быть! Я просто хочу, чтобы в моей стране всё делалось по закону, и не только написанному на бумаге, но и нравственному, принятому среди людей. Вот недавно по телевидению и в интернете показали кадры, где в Круглянском районе распахали могильники, которым более 1000 лет. И зампредседателя Круглянского райисполкома Аксёнова Т. М. уверяла, что это первый и последний раз. Кто бы сомневался, Тамара Николаевна, что последний! Ведь восстановить их уже не удастся! Но то, что это не первый раз, я позволю себе напомнить вам и чиновникам ваших служб.

Лет десять тому назад у нас строили церковь. Строили на историческом месте. Она стояла там несколько веков и была разрушена воинственными атеистами времён СССР. По обычаю, возле церкви велись захоронения. Естественно, родственников тех могил тогда никто не спрашивал, мы полвека ходили в «сквере» по праху наших предков, даже не зная и не задумываясь. Но началось строительство…. И бульдозерами стали выкапываться черепа (и даже детские) и кости захоронённых там ранее людей. По церковному закону их надо было все собрать и перезахоронить в правой части новой церкви, там, где в храме стоит канунник для поминовения умерших людей. Но прах наших предков был вывезен не только на свалку, верхний грунт к тому же, кое-где вместе с костями, как говорили очевидцы, развезён по улице Советской для клумб.

Не избежал печальной участи и памятник, установленный на могиле солдат, погибших при освобождении Круглого. Мы ещё помним, что это был коленопреклонённый солдат с приспущенным знаменем в руках и мать с ребёнком на груди. Он был нам дорог. Но, не спрашивая нас, его снесли и заменили сомнительным «произведением искусства», который многие приезжие воспринимают, как криницу со святого источника и бегут набрать воды. Говорят, что точно такой памятник установлен цыганскому барону!!!!!!!!!! в городе Могилёве. Более того, он перенесён на пару метров дальше захоронения героев-солдат. Значит, мы опять топчемся по их праху, когда идём к памятнику... Язык не поворачивается сказать «к месту их захоронения»…

Так что не надо лукавить, Тамара Николаевна. В нашем районе, и именно вы, как говорят, приложили к этому свои усилия, это уже не первый случай кощунства по отношению к мёртвым. И сейчас районная власть «бульдозером хочет пройтись по нашим сердцам», не спрашивая нас, что же мы хотим видеть на тех местах, которые связывают нас с историей страны, района, города или пусть даже семьи.

Не спрашивая нас, снесли памятник В.И.Ленину, даже раньше, чем Майдан в Украине. Снесли, пусть неказистый, но памятник «Серп и молот», обозначавший знаковое место

*(Окончание на стр. 5)*

## ПЛЯСКА НА КОСТЯХ!

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

в г. п. Круглое, так как половина населения посёлка свою первую любовную встречу назначала у «Серпа». Оттуда начиналась у многих семейная жизнь.

В заключение своей, даже не статьи, а крика души, я хочу спросить: закончится ли когда-нибудь эта пляска на костях, больно бьющая по нашей памяти, по нашим сердцам? И найдётся ли в районе чиновник или активный человек, которому дорога наша история, и который восстановит, пусть уже не памятник Ленину, то хотя бы скромный - символу труда? А, может, райисполком объявит конкурс на восстановление данного памятника?

А вот потерю памятника освободителям Круглого надо расследовать. Узнать, кто давал такое распоряжение, куда исчез данный монумент, и взыскать с виновного стоимость памятника и обязать восстановить его в том виде, в котором он был создан нашими отцами и дедами. И наказать виновных так, чтобы и другим неповадно было менять историю под свой сомнительный вкус. И прежде, чем начинать какое-то новое общественное деяние, чиновники бы устроили ликбез своим ретивым исполнителям, и ознакомили их с нужными документами под расписку, чтобы было с кого спросить за самодеятельность. Думаю, тогда бы не пострадали ни мёртвые, ни тем более, живые!!!

***Зинаида Милещенко***

## “ГОЛОДНЫЙ” ГРАБИТЕЛЬ ПОХИТИЛ У ПЕНСИОНЕРОВ ПРОДУКТЫ

***В Белыничском районе злоумышленник открыто похитил из дома пенсионерки продукты.***

Среди бела дня нетрезвый 28-летний житель а.г.Вишов прогуливался по населённому пункту. Неоднократно судимый мужчина не имел постоянного заработка. Вот и сейчас искал: где бы чем поживиться.

Выбор пал на дом односельчанина. На двери – навесной замок. Подумав, что хозяина нет дома, злоумышленник схватил валявшийся неподалёку металлический прут и выломал в двери пробой.

75-летняя хозяйка дома в это время работала в огороде. Услышав шум, выбежала во двор. Грабитель замахнулся на бабушку палкой: та, в страхе, выскочила на улицу звать на помощь.

Злоумышленник тем временем проник в дом. Похитил у стариков 4 куриных суповых набора, половину палки варёной колбасы, бутылку подсолнечного масла, 2 пачки макарон и буханку хлеба. С похищенными продуктами питания сельчанин направился к себе домой.

Сотрудники милиции Белыничского РОВД “голодного” грабителя застали за трапезой, за обе щеки он уплетал похищенные макароны и курицу.

В отношении злоумышленника районным отделом СК возбуждено уголовное дело по ст. 206 ч. 2 УК (Грабёж).

***Юлия Холомеева, uvd.mogilev.by***

## У КРУГЛЯНСКІМ РАЁНЕ ЎЗЯЛІСЯ ЗА “ДАРМАЕДАЎ”

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*

іх працаўладкавання? Што, мудрыя чыноўнікі не разумеюць, колькі і як яны напрацуюць? Калі не разумеюць, хай запытаюцца ў кіраўнікоў прадпрыемстваў, як тыя пакутуюць з так званымі абавязанымі асобамі і ў якую капейчыну абыходзіцца такая вось прымусовая праца. Да кожнага міліцыянера з аўтаматам не прыставіш. Ды і міліцыянеру гэтаму таксама трэба плаціць заробак (дарэчы, нашмат больш вялікі, да таго ж яшчэ і з дзяржаўнага бюджэту).

Я вельмі рады за нашых мудрых чыноўнікаў і іх блізкіх – для сябе гэтыя слаўныя людзі месцы з годнымі заробкамі знаходзяць без асаблівых праблем. З вялікай цікавасцю назіраю, як плодзяцца за бюджэтны кошт у нашым рэгіёне разнастайныя кіруючыя структуры, і як ствараюцца ў гэтых структурах працоўныя месцы для людзей з знаёмымі прозвішчамі. Навошта гэта робіцца – пытанне рытарычнае. Як і тое, навошта захоўваць шматлікую высокааплатную “вертыкаль” ўлады і праваахоўных органаў у некаторых раёнах Магілёўскай вобласці, насельніцтва ў якіх менш, чым у асобных сельсаветах Мінскай, Брэсцкай і Гродненскай…

Можа, не трэба шукаць сякеру пад лаўкай з выяўленнем “дармаедаў”, а лепш звярнуць увагу на гэтыя раёны? І бюджэтныя выдаткі адразу скароцяцца вельмі значна…

***Барыс Вырвіч***

## Книга Сергея Антонова «Темные туннели» выпущена в Корее

В Корее начала выходить книжная серия «Вселенная Метро 2033» – произведения разных авторов, продолжающие идеи романа Дмитрия Глуховского «Метро-2033». Первым в серии издан роман “Темные туннели” быховчанина Сергея Антонова. Книга уже поступила в продажу.

Белорусский автор в корейской премьере не участвовал, зато провел презентацию для своих земляков в Быхове. Поскольку в Беларуси Сергей Антонов встречался со своими читателями впервые, то презентовать пришлось сразу шестнадцать романов, написанных в разные годы, в том числе и «Темные туннели». Кроме того, писатель рассказал о работе над новым романом, действия которого будут разворачиваться в 1941 году в Быхове.

Напомним, что писатель Сергей Антонов не один год возглавляет Быховскую районную организацию Партии БНФ. На днях у Сергея Валентиновича состоялась встреча с читателями в МГУ им. А. Кулешова.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АБ ТАКТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫХ ХІТРАСЦЯХ МАГІЛЁЎСКА-ШКЛОЎСКАЙ ВЕРТЫКАЛІ…

***“Некоторые должностные лица своими противоправными действиями наносят серьезный ущерб экономике и подрывают авторитет власти”, — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў час даклада старшыні Гродненскага аблвыканкама аб перспектывах сацыяльна-эканамічнага развіцця вобласці.***

З вуснаў кіраўніка краіны прагучала незадаволенасць запавольваннем тэмпаў развіцця Гродненскай вобласці, а таксама пралікамі ў працы з падборам кіруючых кадраў у рэгіёне.

“Я уже неоднократно говорил, что это зло мы будем выжигать каленым железом. Здесь неприкасаемых нет и быть не может. Вы об этом знаете, это не новость”, — падкрэсліў ён у час працоўнай нарады ў г. Гродна 14 лістапада. “…Но что происходит на Гродниншине?” — задаўся ён пытаннем...

А на Гродненшчыне, дзе зараз кіруе Уладзімір Краўцоў, які да лістапада 2013 г. працаваў у Магілёве, толькі за 9 месяцаў бягучага года раскрыта 69 злачынстваў карупцыйнай скіраванасці, здзейсненых асобамі, якія знаходзіліся на пасадах у органах улады і кіравання дзяржаўнымі ўстановамі, арганізацыямі і прадпрыемствамі.




А колькі ж іх засталося не раскрытымі?

Колькасны склад раскрытых злачынстваў можна смела лічыць надводнай, бачнай часткай карупцыйнага айсбергу. Інфармацыя аб яго асноўнай, падводнай часткі так і застанецца для грамадзян краіны цалкам недаступнай.

Падобнай была рэакцыя Лукашэнкі на выніку працоўнай паездкі і ў Магілёўскую вобласць 5 лістапада. Як ён адзначыў, яму паступаюць трывожныя сігналы па сітуацыі ў Магілёўскай вобласці, і гэта інфармацыя, па яго словах, мае падцверджанне з незалежных крыніц.

Відаць, Аляксандр Рыгоравіч усё ж звяртае ўвагу на інфармацыю пра сітуацыю ў вобласці, што змяшчаецца на старонках нешматлікіх незалежных друкаваных выданняў шэрагу рэгіёнаў Магілёўшчыны.

За 9 месяцаў бягучага года па ўсіх эканамічных паказчыках Магілёўская вобласць вельмі шмат змінусавала ў параўнанні з адпаведным перыядам 2013-га. Толькі аб'ём выбрабленага валавога прадукту склаў усяго 96,8%. Экспарт тавараў — 94%. І гэтак далей.

“Я сквозь пальцы не могу смотреть на такое положение дел в области, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — Должны быть конкретные результаты. Если их нет, тогда надо думать, кто будет давать эти результаты”.

У час нарады прагучалі меркаванні як з боку кантралюючых структур, так і ад кіраўніцтва вобласці, Магілёва, Магілёўскага раёна адносна прычын нізкіх тэмпаў развіцця рэгіёна. На думку большасці прысутных на нарадзе, у вобласці не ўдалося выпрацаваць сістэмны падыход падбору кадраў.

У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка прыняў рашэнне прадаставіць старшыні Магілёўскага аблвыканкама Пятру Рудніку права да 15 лістапада прымаць любыя кадравыя рашэнні ў рэгіёне.

Цэлы тыдзень спадар Руднік думаў як распарадзіцца прадастаўленым яму правам і толькі 13 лістапада скарыстаўся такой магчымасцю. У гэты дзень ён знайшоў трох “ахвярных казлоў”, звольніўшы з пасад генеральных дырэктараў ТАА “Папяровая фабрыка “Спартак” у Шклове, ТАА “Магілёўскі металургічны завод”, ТАА “Бабруйсксельмаш”.

Прашарсціць па вертыкалі абл-, гар-, райвыканкамы, дзе заселі асноўныя віноўнікі зніжэння эканамічных паказчыкаў вобласці, у яго, відаць, зноўку духу не хапіла.

Так склалася, што ў гэты ж дзень, 13 лістапада, я атрымаў ліст № 2182 ад 12.11.2014 г. з Магілёўскага аблвыканкаму за подпісам першага намесніка старшыні аблвыканкама А.І. Чыкіды.

У гэтым адказе з аблвыканкаму на мой зварот ад імя грамадзянскай ініцыятывы “Шклоўскі Магістрат” у Адміністрацыю прэзідэнта аб хібах у эканоміцы і сацыяльнай сферы Шклоўскага раёну, спадар Чыкіда сцвярджае, што Магілёўскім аблвыканкамам і Шклоўскім райвыканкамам “праводзяцца неабходныя мерапрыемствы па забяспячэнню належнага ўзроўню сацыяльна-эканамічнага жыцця насельніцтва раёна і падтрыманню стабільнасці ў эканоміцы рэгіёна. Прамысловыя, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і аб'екты сацыяльнай сферы працуюць у адпаведным рэжыме”.

Асноўная прапанова грамадзянскай ініцыятывы аб вылучэнні на пасаду старшыні Шклоўскага райвыканкаму кандыдата эканамічных навук Пятра Мігурскага засталася па-за ўвагай чыноўнікаў.

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# АБ ТАКТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫХ ХІТРАСЦЯХ МАГІЛЁЎСКА-ШКЛОЎСКАЙ ВЕРТЫКАЛІ…

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

Па сведчаннях першага намесніка старшыні аблвыканкаму, “у раёне ўсе падзеі адбываюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствм Рэспублікі Беларусь, у тым ліку падбор і назначэнне кадраў”.

Чытаючы адказ спадара Чыкіды, складваецца ўражанне, што ён або адсутнічаў на працоўнай нарадзе ў Магілёве 5 лістапада пад старшынствам кіраўніка краіны і не чытаў выніковых матэрыялаў нарады, або праспаў увесь час.

А можа быць лідэрства Шклоўскага раёна ў краіне па “мінусу” надояў малака на адну карову за 2013 год — гэта тактыка-эканамічная хітрасць магілёўска-шклоўскай вертыкалі?




А рэгулярныя крымінальныя справы, што ўзбуджаюцца на намеснікаў старшыні Шклоўскага райвыканкаму, кіраўнікоў прадпрыемстваў раёна за злоўжыванне службовым становішчам, і агульны, раскрыты сілавымі структурамі, карупцыйны складнік за чатыры апошнія гады каля 60 млрд. руб. — гэта адпаведны, запланаваны рэжым працы прадпрыемстваў і ўстаноў раёна?

Своеасаблівыя магілёўска-шклоўскія хітрасці ў наладжванні вытворчасці, дзейнасці ўстаноў і разнастайных арганізацый “паспяхова” былі перанесены і спадаром Краўцовым на Гродненшчыну. Менш года яму хапіла, каб па выніках пераўзыйсці сваіх былых калег па працы ў Магілёўскім аблвыканкаме.

Ну што можна сказаць аб такой дзейнасці прадстаўнікоў магілёўска-шклоўскай вертыкалі, што працуюць на разнастайных пасадах па ўсёй краіне? Якую карысць для беларускага народа яны прыносяць гэткай сваёй працай? А можа быць ад іх адна толькі шкода?

Каб вызначыць патрэбнасці для краіны такіх людзей і пасад, што яны займаюць, прапаную правесці ў Магілёўскай вобласці невялікі эксперымент.

Трэба на адзін месяц адправіць у адпачынак сем службовых асобаў аблвыканкама: старшыню, яго намеснікаў і кіруючага справамі. А таксама — апарат абласнога Савета дэпутатаў. А разам з імі ўвесь абслугоўваючы персанал, з пастаноўкай на прыкол службовых аўтамабіляў, апячатваннем і абясточваннем кабінетаў, зняццём міліцэйскай аховы.

Праз месяц, па выніках працы эканомікі вобласці, зрабіць высновы. Калі сітуацыя ў вобласці памяняецца да лепшага, або застанеца на тым жа ўзроўні, можна лічыць эксперымент паспяховым і распаўсюджваць яго на іншыя рэгіёны і ўзроўні вертыкалі.

Я ўпэўнены ў паспяховасці падобнага эксперымента.

**Рыгор Кастусёў**

## ЧАЛЬЦЫ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ “ПАДВОРАК”ЗВЯРНУЛІСЯ ДА ЎЛАДАЎ З ПРОСЬБАЙ АБ ДАПАМОЗЕ І СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

***Чальцы грамадзянскай ініцыятывы “Падворак” прынялі зварот да камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Магілёўскага аблвыканкама і старшынь райвыканкамаў Магілёўскай вобласці. Зварот быў прыняты на круглым стале чальцоў грамадзянскай ініцыятывы “Падворак” 28 лістапада ў Магілёве.***

Актывісты “Падворка” звярнуліся да мясцовых ўладаў і грамадскасці з прапановай аб больш актыўным умяшальніцтве ў сітуацыю з вытворчасцю сельскагаспадарчай прадукцыі на асабістых падворках.

Вяскоўцы ў звароце паскардзіліся на тое, што мясцовыя ўлады не вядуць сістэмнай працы з асабістымі падсобнымі гаспадаркамі, не выконваецца пастанова Савета Міністраў ад 27 кастрычніка 2010 года №1578 “Аб праграме развіцця і падтрымкі асабістых падсобных гаспадарак грамадзян у 2011-2015 гадах”, не прымаюцца меры для эфектыўнага вырашэння праблемаў асабістых гаспадарак, што вядзе да заняпаду эканомікі цэлых рэгіёнаў. У выніку ў вёсках і аграгарадках падрываецца сялянскі лад жыцця, знікаюць векавыя традыцыі працоўнага выхавання маладога пакалення.

Між тым якраз асабістыя падсобныя гаспадаркі з’яўляюцца ці не адзінай “кропкай” эканамічнага росту ў сельскай гаспадарцы краіны, выпрабляючы ў вялікіх аб’ёмах танную і якасную прадукцыю.

Не надаюць дастатковай увагі ў адстойванні інтарэсаў сваіх выбаршчыкаў-вяскоўцаў і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, якія занялі пазіцыю назіральнікаў у гэтай справе.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

## ЧАЛЬЦЫ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ “ПАДВОРАК”ЗВЯРНУЛІСЯ ДА ЎЛАДАЎ З ПРОСЬБАЙ АБ ДАПАМОЗЕ І СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

*(Заканч. Пачатак на стар. 7)*

Па словах кіраўніка грамадзянскай ініцыятывы “Падворак” Зінаіды Мілешчанка, з трох дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, да якіх звярталіся раней са сваімі прапановамі чальцы “Падворка”, нейкі абгрунтаваны адказ даў толькі дэпутат па Магілёўскай сельскай выбарчай акрузе №88 Аляксандр Разганаў.

“Даў адказ з нейкімі канкрэтнымі тлумачэннямі толькі Аляксандр Разганаў. – кажа Зінаіда Мілешчанка. - Дэпутат Палаты прадстаўнікоў па Бабруйскай сельскай выбарчай акрузе №80 Алена Шамаль проста праінфармавала мяне і сяброў нашай грамадзянскай ініцыятывы “Падворак” аб тым, што накіравала мой зварот для пазгляду ў Магілёўскі аблвыканкам, і я буду ім праінфармавана дадаткова, зрабіўшы па-сутнасці адпіску і спіхнуўшы сваю працу на Магілёўскі аблвыканкам. Ну а дэпутат Палаты прадстаўнікоў па Шклоўскай выбарчай акрузе №90 Аляксандр Агееў проста праігнараваў наш папярэдні зварот. Ён наогул не даслаў на яго ў парушэнне Закона “Аб зваротах грамадзян” ніякага адказу. Верагодна, дэпутата Агеева праблемы вяскоўцаў не хвалююць, хоць менавіта яны складаюць большасць яго выбаршчыкаў у Шклоўскім, Круглянскім і Бялыніцкім раёнах”.

Актывісты “Падворка” прапаноўваюць мясцовым уладам свае паслугі ў распрацоўцы і рэалізацыі падыходаў да вырашэння праблем асабістых гаспадарак, а ўладальнікам падворкаў – прафесійныя і юрыдычныя кансультацыі дзеля больш эфектыўнага іх вядзення.

Нагадаем, што раней актывісты з грамадзянскай ініцыятывы “Падворак” у сярэдзіне кастрычніка звярталіся з пісьмовым зваротам да старшыні Магілёўскага аблвыканкама Рудніка Пятра Міхайлавіча, дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Агеева Аляксандра Віктаравіча, Разганава Аляксандра Іванавіча, Шамаль Алены Уладзіміраўны.

Яны прапаноўвалі чыноўнікам і дэпутатам звярнуць увагу на стан вядзення асабістых гаспадарак у вобласці, распрацаваць рэальную сістэму мер па павышэнню эфектыўнасці вядзення асабістых гаспадарак па раёнах шляхам стварэння дзейснай нарматыўна-заканадаўчай базы мясцовага самакіравання, зменьшыць адміністрацыйныя бар’еры ў справах вытворчасці і продажу прадукцыі з падворкаў.

***Барыс Вырвіч***

## СУД ПО ГАРАЖАМ В БЕЛЫНИЧАХ ПРОДОЛЖАЕТСЯ

*(Оконч. Начало на стр. 2)*

Первое заседание по новому рассмотрению дела прошло в суде Белыничского района 28 ноября.

Напомним, что ранее Александр Воробьёв в своём исковом заявлении в суд Белыничского района писал о том, что выделение земельного участка ГСПК «Дозор» проходило с многочисленными нарушениями – отсутствуют документы на перевод земельного участка из одной категории в другую, акт приёма-передачи земельного участка с строениями, акт инвентаризации земельного участка с строениями, а также ссылался на отсутствие в уставе кооператива статуса капитальных строений (гаражей), за которые регулярно велась оплата.

По словам Александра Воробьёва, решением Белыничского райисполкома в 2009 году созданному гаражностроительному кооперативу «Дозор» был предоставлен земельный участок площадью 4,2245 га. В этот участок без всякого уведомления и без проведения каких-либо собраний и других процедур, предусмотренных белорусским законодательством, были включены и капитальные гаражи, построенные белыничанами задолго до создания кооператива.

***Сергей Семенович***

## ЗАРОБКІ ВАЛЯЦЦА…

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

ў Бялыніцкім раёне ў кастрычніку 2014 г. склала 95,3% ад заробка ў 2013 годзе.

Я выдатна ведаю, як добра навучыліся маляваць патрэбныя лічбы нашы слаўныя статыстыкі, таму думаю, што рэальна заробкі ў бялынічан знізіліся яшчэ больш. Да таго ж, з-за падзення курса расійскага рубля рэзка зменшыліся даходы і ў тых бялыніцкіх “дармаедаў”, якія губяць сваё здароўе, каб пракарміць сем’і, працуючы ў Расіі, і прывозячы пасля гэтага валюту ў родны Бялыніцкі раён. Усе знаёмыя прадпрымальнікі ў адзін голас кажуць, што іх тавараздварот у параўнанні з восенню мінулага года зменшыўся на 20-30%, прыкладна на столькі абваліліся ў рэальнасці і сапраўдныя даходы бялынічан.

Аднак мудрым бялыніцкім чыноўнікам на гэта начхаць, як і на тое, чаму ў студзені-жніўні 2014 года ў эканоміцы Бялыніцкага раёна было занята на 4,9% людзей меней, чым у мінулым годзе. У Бялынічах проста амаль няма годнай працы, дзе б рэальна плацілі нейкія нармальныя грошы, за апошнія дзесяцігоддзі тут не былі пабудаваны ніякія новыя прадпрыемствы. Пры гэтым чыноўнікі распавядаюць казкі пра тое, што ў раёне існуе 108 вольных працоўных вакансій, не ўдакладняючы, якія заробкі прапануюцца на гэтых вольных месцах і ці адправілі б яны працаваць за такія грошы сваіх дзетак. Праўда, сайт Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ўдакладняе, што такіх вольных месцаў па стане на 3 снежня ў Бялыніцкім раёне толькі 63, і заробкі там прапануюцца ў асноўным ад 1,2 да 3 мільёнаў рублёў, аднак што бялыніцкім чыноўнікам міністэрскі сайт.

Тым больш, яны ўжо падлічылі, што ў Бялыніцкім раёне толькі 33 беспрацоўных і яшчэ 1231 непрацучы жыхар (цікавая казуістыка). Аднак яшчэ б цікавей было, што б рабілі нашыя мудрыя чыноўнікі, каб гэтыя “дармаеды” запатрабавалі сабе працу ў Бялыніцкім раёне хаця б з падлічаным імі ж сярэднім заробкам?

Зразумела, трындзець, – не мяхі варочаць. Таму лепш бы “рохкалі ля кармушкі” і маўчалі…

***Іван Барысаў***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. E-mail: boris196608@bk.ru. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 03.12. 2014 г. у 20-00.